**№ 87 (4032)**

6 лістапада 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*



ТЭМА ДНЯ

# Старыя грошы будуць сапраўдныя да 2022 года



Як паведаміў Нацбанк, дэнамінацыя будзе праведзена шляхам замены банкнот, якія знаходзяцца ў абарачэнні (узору 2000 года), на новыя, узору 2009 года, у суадносінах 1:10.000. Гэта значыць, самая малая сённяшняя купюра – 100 рублёў будзе заменена на 1 капейку.

Усяго з 1 ліпеня ў абарачэнне будуць выпушчаны сем наміналаў банкнот – 5, 10, 20, 50, 100, 200 і 500 рублёў, і восем наміналаў манет – 1, 2, 5, 10, 20 і 50 капеек, а таксама 1 і 2 рублі.

Агульная канцэпцыя дызайну новых банкнот адпавядае дэвізу «Мая краіна – Беларусь», піша Нацбанк. Кожная банкнота прысвечана адной з абласцей Беларусі і Мінску.

## Без камісіі

З 1 ліпеня і па 31 снежня 2016 года новыя і старыя грошы будуць хадзіць паралельна, імі можна будзе разлічвацца паўсюль.

На працягу наступных пяці гадоў – з 1 студзеня 2017-га па 31 снежня 2021 года ўключна – старыя купюры, у каго яны захаваюцца, можна будзе абмяняць на новыя. Прычым мяняцца будуць любыя сумы і без камісійнага збору.

Абмяняць старыя грашовыя знакі на новыя можна будзе:

з 1.01.2017 па 31.12.2019 уключна – у Нацбанку, банках і нябанкаўскіх крэдытна-фінансавых арганізацыях Беларусі;

з 1.07.2020 па 31.12.2021 ўключна толькі ў Нацбанку.

З 1 студзеня 2022 г. грашовыя знакі ўзору 2000 года будуць лічыцца несапраўднымі.

## Два цэннікі

Для зручнасці, пакуль у абарачэнні будуць старыя і новыя грошы, – з 1 ліпеня па 31 снежня 2016 года – кошты на ўсё і па ўсёй краіне будуць мець два цэннікі – у старых і новых грашах.

НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

# Больш не мільянеры

З 1 ліпеня 2016 года ў нашых кашальках з'явяцца новыя грошы. Самай вялікай купюрай у краіне стане 500 рублёў. Па цяперашніх грашах – 5 мільёнаў, не ўсе у Беларусі маюць такую зарплату. Нарэшце ў нас будуць і капейкі, якімі з савецкіх часоў беларусы не карысталіся.

На што многія звярнулі ўвагу, калі ўзоры новых грошай з'явіліся ў інтэрнэце, – на купюрах стаіць подпіс Пятра Пракаповіча. Але ж Герой Беларусі Пракаповіч з 2011 года не кіраўнік Нацбанка. Значыць, грошы былі надрукаваны даўно. У Нацбанку патлумачылі: новыя купюры былі выраблены яшчэ ў 2008 годзе, але тады дэнамінацыя не адбылася з-за сусветнага эканамічнага крызісу, дый эканамічная сітуацыя ў краіне пагоршылася. Таму новыя грошы паклалі ў цэнтральнае сховішча Нацбанка. Да лепшых часоў. Але ці надышлі яны?

Чаго чакаць беларусам ад дэнамінацыі? Увогуле, гэта добра ці не? Ці ёсць плюсы ад дэнамінацыі акрамя таго, што лічыць грошы стане лягчэй? З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся да фінансавага аналітыка даследчай групы BusinessForecast.by **Аляксандра Мухі.**

– *По сутнасці, дэнамінацыя – гэта тэхнічнае мерапрыемства, і драматызаваць сітуацыю не варта*, – тлумачыць эксперт. – *Тым больш што маральна народ ужо гатовы да «абразання» нулёў. Няма перадумоў для таго, каб насельніцтва кінулася ў банкі здымаць рублёвыя ўклады, каб кошты раслі хутчэй, чым яны растуць зараз.*

*Хоць, вядома, некаторыя негатыўныя наступствы ад дэнамінацыі могуць быць, але насіць яны будуць часовы і абмежаваны характар. Не выключана, што зараз павялічыцца попыт на валюту і ў насельніцтва, і ў юрыдычных асоб. І, думаю, улады невыпадкова выбралі гэты час для аб'яўлення дэнамінацыі, таму што традыцыйна напрыканцы года беларусы ідуць у абменнікі па валюту. То бок гэта адбылося усё роўна, незалежна ад таго, што аб'яўлена дэнамінацыя.*

*Не зразумела і тое, навошта трэба было так спяшацца і пачынаць абмен грошай у сярэдзіне наступнага года. На мой погляд, больш лагічна было б правесці дэнамінацыю з 1 студзеня 2017 года. Гэта было б лепш для статыстычнай і бухгалтарскай справаздачнасці. Акрамя таго, тэмпы інфляцыі не спынены, хоць і запавольваюцца. А праводзіць дэнамінацыю трэба тады, калі тэмпы інфляцыі хаця б два гады трымаюцца на ўзроўні ніжэй за 10% гадавых. Таму ўзнікае пытанне: ці не праводзіцца дэнамінацыя менавіта цяпер для таго, каб адцягнуць увагу народа ад праблем? І ці не атрымаецца так, што праз пару гадоў давядзецца адмовіцца ад капеек?*

*Тым не менш я лічу, што аб'яўленне аб дэнамінацыі – гэта сігнал грамадству, эканамічным агентам аб сур'ёзным намеры Нацбанка і ўрада зніжаць тэмпы інфляцыі ў эканоміцы. Гэта доўгатэрміновая стратэгія, і яна, мяркуючы па ўсім, укладваецца ў фармат узаемаадносін з міжнароднымі фінансавымі інстытутамі, з нашымі патэнцыяльнымі крэдыторамі – МВФ, Еўразійскім фондам стабілізацыі і развіцця, а таксама падтрымліваецца Аляксандрам Лукашэнкам.*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

# Пятая інаўгурацыя Лукашэнкі

*Сёння ў Палацы Незалежнасці адбудзецца цырымонія ўступлення ў пасаду кіраўніка краіны Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.*

Ужо за некалькі дзён да інаўгурацыі ў сталіцы пачалі рыхтавацца да мерапрыемства. На галоўных вуліцах у цэнтры Мінска развесілі дзяржаўныя сцягі. Некаторыя заўважылі цікавае супадзенне: паколькі Лукашэнка пяты раз прымае прысягу, то на некаторых слупах з'явілася па пяць сцягоў.

Упершыню інаўгурацыя пройдзе ў Палацы Незалежнасці. У першы раз з прэзідэнцкай клятвай Лукашэнка выступіў з трыбуны ў Авальнай зале Вярхоўнага Савета Беларусі 20 ліпеня 1994 года. А з 2001 года кіраўнік краіны даваў клятву са сцэны Палаца Рэспублікі.

Учора каля 12.00 вадзіцелям, якія рухаліся ля Палаца Незалежнасці, трэба было шукаць аб'язныя шляхі. Даішнікі то перакрывалі дарогі, то адкрывалі... Па праспекце Пераможцаў несліся нейкія матацыклы з мігалкамі з прэзідэнцкага картэжа – відаць, ішла апошняя падрыхтоўка да мерапрыемства. Гэта пацвярджалі і супрацоўнікі ДАІ, якія роўненька стаялі на праспекце праз кожныя 100–300 метраў.

Як паведамляе прэс-служба кіраўніка краіны, пасведчанне прэзідэнта Аляксандру Лукашэнку будзе ўручана ў прысутнасці больш як тысячы запрошаных. Сярод іх – вышэйшыя службовыя асобы краіны, чыноўнікі і кіраўнікі розных узроўняў, дыпламаты і замежныя госці.

Затым на плошчы Дзяржаўнага сцяга вайскоўцы прынясуць прысягу на вернасць беларускаму народу і прэзідэнту. Па завяршэнні цырымоніі перад кіраўніком дзяржавы ўрачыстым маршам пройдзе рота ганаровай варты.

З месца правядзення мерапрыемстваў будзе весціся прамая трансляцыя па ўсіх каналах Беларускага тэлебачання. Яна пачнецца ў 12.00 (па мінскім часе). Акрамя таго, у Палацы Рэспублікі адбудзецца святочны канцэрт.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

SOS!

# Абанкруціліся...

Самае буйное сельскагаспадарчае прадпрыемства Гарадоцкага раёна прызнала сябе банкрутам. Гарадоцкі райвыканкам, галоўны трымальнік акцый ААТ "Гарадоцкі райаграпрамснаб", прызнаў сваю няздольнасць далей кіраваць прадпрыемствам і прагаласаваў за заяву аб банкруцтве.

Пазачарговы сход акцыянераў ААТ "Гарадоцкі РАПС", на якім было прынята рашэнне аб звароце ў Эканамічны суд з заявай аб эканамічнай недзеяздольнасці даўжніка, ужо адбыўся. Гэтай працэдурай распачаўся афіцыйны працэс прызнання буйнейшага сельгаспрадпрыемства раёна банкрутам.

Створанае на базе Гарадоцкай райсельгастэхнікі напрыканцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя акцыянернае таварыства на працягу дзесяцігоддзя ўключыла у свой склад тэрыторыю амаль трэці зямель раёна. Галоўным акцыянерам прадпрыемства стаў Гарадоцкі райвыканкам, а кіраўнікамі прадпрыемства былі звычайна асобы, набліжаныя да старшынь райвыканкама: то Анатоля Мароза, то Васіля Муранкова.

Толькі гэтая набліжанасць дазваляла хранічнаму даўжніку перад крэдыторамі атрымліваць усё новыя крэдыты, якія вяртаць даўно ўжо не стала чым.

Крэдытная гісторыя прадпрыемства – асаблівая... Паводле інфармацыі мясцовых СМІ, на час прыняцця заявы аб банкруцтве запазычанасць па крэдытах ААТ "Гарадоцкі РАПС" перавысіла 100 мільярдаў рублёў. Калі тое праўда, то гэта трэцяя частка ўсіх даўгоў Гарадоцкага раёна.

Пытанне аб звароце ў Эканамічны суд планавалася разгледзець яшчэ 7 кастрычніка, але "лёсавызначальны" дзень 11 кастрычніка – фініш прэзідэнцкай кампаніі – адклаў пытанне на пару тыдняў. Цяпер прадпрыемства ААТ "Гарадоцкі РАПС" чакае доўгая працэдура ліквідацыі, якая можа расцягнуцца на 3–4 гады, а працаўнікоў – незайздроснае жыццё на прадпрыемстве-банкруце.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Бацьку – 5,5 года пазбаўлення волі, сыну – 6,5 года калоніі

У Гомелі вынесены прысуд за браканьерства ў чарнобыльскай зоне.

Нагадаем, што супрацоўнікі КДБ затрымалі браканьераў яшчэ ў снежні мінулага года. «Паляўнічыя» перасоўваліся па зоне адсялення Веткаўскага раёна на машыне, якая, дарэчы, належала Сяргею Гатальскаму, намесніку начальніка Гомельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету. Пры затрыманні супрацоўнікі КДБ выкарыстоўвалі табельную зброю, адзін з браканьераў нават атрымаў лёгкае раненне.

У машыне знайшлі часткі забітага лася і прыстасаванні для раздзелкі тушы жывёлы. Таксама ў лесе трапілі на месцы, дзе браканьеры забілі яшчэ чатырох ласёў. А ў хаце аднаго з браканьераў знайшлі паляўнічую зброю і патроны. Паведамлялася, што шкода, нанесеная навакольнаму асяроддзю, ацэньвалася ў паўмільярда беларускіх рублёў.

Дзяржаўную пасаду займаў не толькі ўладар машыны. У ходзе следства абвінавачанні былі прад'яўлены 19 фігурантам гэтай справы, у тым ліку тром супрацоўнікам інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, пяці супрацоўнікам УУС Гомельскага аблвыканкама (у тым ліку начальніку раённай ДАІ) і службовай асобе з «Веткаўскага спецлясгаса». Але ж у дачыненні амаль да ўсіх крымінальны пераслед быў спынены ў сувязі з прымяненнем закона аб амністыі. А на лаве падсудных засталіся двое – бацька і сын. Бацька – егер Гомельскага беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў, сын – намеснік начальніка міжраённай Гомельскай інспекцыі прыродаахоВы.

Справа цягнулася амаль год. І вось прысуды вынесеныя: бацьку далі 5,5 года пазбаўлення волі, а сыну – 6,5 года калоніі, па адным годзе скінулі па амністыі. Абодва пакараны за арганізацыю незаконнага палявання і незаконнае захоўванне боепрыпасаў, акрамя таго, сын абвінавачваецца ў злосным хуліганстве.

# Санкцыі могуць аднавіць

Прадстаўнікі Дзяржаўнага дэпартамента ЗША цягам трох дзён сустракаліся з прадстаўнікамі Адміністрацыі Аляксандра Лукашэнкі, царквы, беларускімі палітыкамі і праваабаронцамі.

Падчас сустрэчы з журналістамі яны адзначылі, што беларускія ўлады зрабілі пазітыўны крок, вызваліўшы палітвязняў. Адказ ЗША – прыпыненне санкцый. Калі ж сітуацыя будзе пагаршацца, то яны зноў запрацуюць на ўсю моц.

# ...За шпіянаж на карысць Беларусі?

Вільнюскі акруговы суд у чацвер прызнаў вінаватым у шпіянажы на карысць Беларусі былога супрацоўніка дзяржпрадпрыемства паслуг паветранай навігацыі Oro navigacija Рамуальда Ліпскага.

Ліпскі асуджаны да трох гадоў і трох месяцаў пазбаўлення волі.

Як паведамляе агенцтва BNS, згодна з матэрыяламі справы, Ліпскі ў сваім кабінеце ў Oro navigacija таемна фатаграфаваў дакументы і перадаваў іх галоўнаму разведвальнаму ўпраўленню Генштаба Узброеных сіл Беларусі.

С ЮБИЛЕЕМ!

# Один из патриархов

Лавринович.

Гайденко.

Санчуковский.

В 1980-е годы перед этой сплоченной тройкой открывались самые высокие двери не только в Минске, но и в Москве. Возглавляя многотысячные коллективы МАЗа, «Интеграла», «Горизонта», они олицетворяли собой ту часть промышленности, в ускоренном развитии которой нуждалась вся экономика Советского Союза.



80-е годы: генеральный директор «Горизонта» Александр Александрович Санчуковский.

Жаль, что прославленная тройка не может сегодня сесть за один стол. Оставили этот свет Михаил Федорович Лавринович и Петр Петрович Гайденко. Но до последнего они вместе с Александром Александровичем Санчуковским как могли подставляли плечо Беларуси. Они, все трое, стояли у истоков создания республиканского общественного объединения «Белорусская научно-промышленная ассоциация», которая и по сегодняшний день является главным мозговым центром отечественного директората. Именно они поддержали идею создания «Приорбанка», который стал своеобразным финансовым локомотивом промышленности...

О каждом из этих троих можно писать книги. Но сегодня, 6 ноября, есть повод сказать доброе слово о Сан Саныче – так величали и величают в кругу друзей Санчуковского. Ему – 75! Как тут не воскликнуть: «С юбилеем, патриарх!»

*(Продолжение на 2-й стр.)*

ПАЛІТКУХНЯ

# Вострыя вуглы «круглага стала»

Пяцёра беларускіх апазіцыйных лідараў звярнуліся з адкрытым лістом да Еўрапейскага Саюза з просьбай перазапусціць унутраныя перамовы па пытанні дэмакратычных рэформ у Беларусі.

Палітыкі лічаць, што "перамоўны працэс", які павінен уключаць пасрэднікаў ад АБСЕ і ад органаў ЕС, можа "пашырыць прастору свабоды" для прыхільнікаў мірных рэформ.

Яны таксама заклікалі ЕС патрабаваць лепшых стандартаў у Беларусі падчас правядзення парламенцкіх выбараў у наступным годзе, напрыклад, шляхам уключэння прадстаўнікоў апазіцыйных партый і рухаў у склад выбарчых камісій і забеспячэння "адкрытага і празрыстага" падліку галасоў.

Зварот падпісалі: ад партыі "Справядлівы свет" **Сяргей Калякін,** ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька,** ад грамадскага руху "За дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі" **Уладзімір Някляеў,** ад аргкамітэта па стварэнні БХД **Павел Севярынец** і ад аргкамітэта па стварэнні сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" **Мікалай Статкевіч.**

Подпісаў экс-кандыдата ў прэзідэнты **Тацццяны Караткевіч** і **Аляксандра Мілінкевіча,** які афіцыйна ўзначальвае рух "За Свабоду", пад зваротам няма. Апошні, паводле яго слоў, не падключыўся з-за таго, што "пакінуў палітыку".

## Веры мала, але...

Паводле слоў старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі, ліст утрымлівае пакрокавую дарожную карту з некалькіх пунктаў. Першы тычыцца таго, каб беларусам вярнулі права выбару. «Гэта азначае змену выбарчага заканадаўства і яго правапрымяняльнай практыкі.

У лісце гаворыцца аб неабходнасці правядзення парламенцкіх выбараў 2016 года ў адпаведнасці з дэмакратычнымі стандартамі.

Былы палітвязень і кандыдат на пасаду прэзідэнта на выбарах 2010 года Мікалай Статкевіч падкрэсліў, што ідэя пра перамовы з Лукашэнкам з'яўляецца толькі адной з прапаноў. Сутнасць ліста ў патрабаванні правесці сумленныя і дэмакратычныя парламенцкія выбары ў 2016 годзе.

У сваю чаргу Павел Севярынец у каментарыі БелаПАН зазначыў, што асноўны змест ліста заключаецца ў ацэнцы сёлетніх прэзідэнцкіх выбараў – «у тым, што гэта ніякія не выбары». «І калі ўжо дзеянне санкцый прыпыняецца, гэта павінна быць чымсьці абумоўлена, далейшыя крокі беларускіх улад павінны адсочвацца. Менавіта таму мы прапануем дарожную карту, першым пунктам у якой стаіць правядзенне сумленных і свабодных парламенцкіх выбараў паводле стандартаў АБСЕ», – сказаў палітык.

КРОПКІ НАД "І"



## А што Тацццяна?

Як высветлілася, экс-кандыдату ў прэзідэнты **Тацццяне КАРАТКЕВІЧ** падпісаць ліст не прапаноўвалі, паколькі яе не было ў краіне. Але, падобна на тое, што яна і не падпісала б. Па крайняй меры каментарый на гэты конт Караткевіч дала амаль што хамскі. Яна, бачыце, лічыць, што лідары апазіцыі, якія падпісалі адкрыты ліст, не маюць падтрымкі ў грамадстве.

– У тым, што тычыцца "круглага стала", мы лічым важным, каб усе суб'екты гэтага працэсу мелі падтрымку ў грамадстве. Мы на гэта працуем. Штучна сабраны суразмоўцы, за якіх папрасіў Захад, і такі дыялог ні да чаго не прыводзіць – вопыт ужо быў, – сказала Караткевіч.

Трэба разумець, што Тацццяна Караткевіч праз некаторы час бачыць сябе як візаві Аляксандра Лукашэнкі на перамовах і працуе над гэтым. А пакуль ідэя заўчасная. Бо, на яе думку, хто такі Статкевіч?.. Хто такі Някляеў?.. Адным словам, ранавата дае ведаць пра сябе "зорная хвароба"...

## Ні за «круглы», ні за «квадратны»

Пазіцыю скептыкаў, а менавіта яе прытрымліваецца большасць палітычных аналітыкаў, яскрава дэманструе каментарый **Аляксандра КЛАСКОЎСКАГА.**

Яго асноўныя довады такія:

– Увогуле нельга ўвайсці двойчы ў адну і тую ж раку. І, кладучы руку на сэрца, трэба сказаць, што тады, у 1999 годзе, беларуская апазіцыя была на парадак мацнейшая, чым цяпер. Болей было ўзаемнага даверу, была вышэйшая здольнасць да кансалідацыі. Цяпер жа мы бачым, што гэтую заяву не ўсе апазіцыйныя лідары згадзіліся падпісаць.

***

– Аляксандр Лукашэнка занадта ўпэўнена сябе адчувае, каб ісці на перамовы з апазіцыяй.

Самае галоўнае, што беларускі афіцыйны лідар сёння на кані ў тым, што тычыцца дачыненняў з Еўрасаюзам. Ён адчувае сябе пераможцам, бо афіцыйны Мінск праціснуў свой фармат узаемадзеяння з Еўропай, калі тая бярэ пад увагу найперш прагматычныя меркаванні, у прыватнасці чыннік геапалітыкі, і адсоўвае ўбок пытанне дэмакратыі і правоў чалавека.

***

– Апазіцыя мусіць рэальна пашыраць уплыў на масы, рэальна мець нейкую вагу, дастатковую для таго, каб з ёй лічылася ўлада. Сёння сітуацыя не тая, і са слабай апазіцыяй, якая нават паводле незалежнай сацыялогіі мае невялікі ўплыў на масы, натуральна, Лукашэнка, які трымае краіну ў кулаку і цалкам кантралюе сітуацыю, не згодзіцца сесці за адзіны "круглы стол". Ні за круглы, ні за квадратны.

АД РЭДАКЦЫІ

## Крок адказны і маральны

"Лукашэнка не будзе пілаваць крэсла, на якім сядзіць", – усе каментарыі скептыкаў можна звесці да гэтай банальнай заўвагі. Яны чамусьці не ўлічваюць тое, што крэсла ўжо падпілавана.

Так, устойлівасць прэзідэнцкага крэсла пахіснула не апазіцыя, якая на сённяшні дзень даволі кволая. Яго пахіснула эканоміка. І з боку адказных палітыкаў і грамадскіх дзеячаў было б дзіўным і няправільным не выкарыстаць момант.

За "круглы стол" павінны сесці не толькі прадстаўнікі ўлады і апазіцыі, але і вылучэнцы ад шырокай дэмакратычнай грамадскасці. Толькі "круглы стол" здольны вывесці нашу краіну з эканамічнага і палітычнага тупіка, даць пачатак мірным рэформам. А вось альтэрнатыва яму – альбо, не выключана, рэвалюцыя, альбо далейшая дэградацыя сістэмы, якая ў выніку можа ўвогуле прывесці да страты дзяржаўнага суверэнітэту.

Можна, канечне, чакаць рэвалюцыі, як гэта прапануюць некаторыя гарачыя галовы ў апазіцыі.

З другога боку, можна закалыхваць сябе кампліментамі і не заўважаць відавочных праблем, як гэта робяць некаторыя прадстаўнікі ўлады.

Але шанц на мірную трансфармацыю, на змены, на "свежае паветра" ў палітычным і эканамічным жыцці – гэта канструктыўны дыялог паміж палітычнымі сіламі ўнутры Беларусі, якія ўжо 20 гадоў знаходзяцца ў канфрантацыі.

Сёння Беларусі не канфрантацыя патрэбна. Сёння ўсім нам патрэбна грамадская згода.

Сёння нам патрэбна ўлада, да якой будзе давер. Сёння нам патрэбна апазіцыя, якая здольна не толькі на крыкі "Далоў!".

Заклік "пяцёркі", адрасаваны Аляксандру Лукашэнку, сесці за стол перамоў – гэта ў прынцыпе правільны, адказны і маральны крок. І цяпер кіраўнік дзяржавы павінен вырашаць, што для яго больш важна – ігнараваць апанентаў, рабіць выгляд, што іх не існуе, ці зміріцца з аб'ектыўнай рэальнасцю.

А рэальнасць такая: Беларусі патрэбны рэформы – і палітычныя, і эканамічныя. Пайсці на іх ці чакаць, пакуль усё абваліцца і прывядзе да народнага бунту, – вось гэта і ёсць сутнасць выбару.

**Падборку падрыхтавала Алена НОВІКАВА.**

